№ 1 (4048)

5 студзеня 2016 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай
і рускай мовах

Выдавец:
УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.

www.nv-online.info

# Народная Воля

*На прастор, на шырокі разлог*
*Выходзі, мой народ, грамадою...*

*Якуб КОЛАС*

**Да ўвагі!**
*Хто хоча набываць газету ў офісе рэдакцыі — чакаем!*

У ДАРОГУ!

### Электрычка да Гомеля

Ужо ў красавіку гэтага года з Мінска да Гомеля можна будзе даехаць на электрычцы.

Літаральна ў апошнія дні мінулага года Беларуская чыгунка скончыла электрыфікацыю ўчастка Гомель–Жлобін працягласцю 86 кіламетраў. Зараз уводзяцца ў эксплуатацыю прылады электрыфікацыі, якія дазволяць наладзіць новы маршрут для электрычак. Адкрыць яго плануецца ў красавіку.

СКАЗАНА!

### Мінпрацы абяцае...

У 2016 годзе ў Беларусі пенсійны ўзрост не будзе павышацца. Пра гэта ўчора заявіла **Ларыса Яшкова,** намеснік начальніка галоўнага ўпраўлення пенсійнага забеспячэння Міністэрства працы і сацыяльнай абароны.

Паводле яе слоў, гаварыць пра гэта яшчэ рана. Разам з тым гэтае пытанне ў Беларусі абавязкова будзе разглядацца, адзначыла Яшкова. Плануецца, што рашэнні наконт пенсійнага ўзросту Беларусь будзе сінхранізаваць з Расіяй.

АБІТУРЫЕНТ-2016

### Каго возьмуць без іспытаў?

Вучні з профільных педагагічных класаў змогуць паступаць у педагагічныя ВНУ без іспытаў. Пра гэта ў інтэрв'ю БЕЛТА паведаміла намесніца прэм'ер-міністра Беларусі **Наталля Качанава.**

Паводле яе слоў, «плануецца даць ім права паступлення без уступных выпрабаванняў, калі ацэнкі па ўсіх школьных прадметах – 7 і вышэй, па профільных вучэбных дысцыплінах – не ніжэй за 9 балаў. Акрамя таго, абітурыенту пры паступленні на педагагічную спецыяльнасць у 2016 годзе абавязкова спатрэбіцца рэкамендацыя педсавета ўстановы адукацыі, якую ён скончыў».

А для паступлення ў ВНУ фізічнай культуры абітурыентам спатрэбіцца спартыўны разрад.

ЛІСТ З РЭДАКЦЫІ

# Ёсць такая партыя – «Народная Воля»!

Хтосьці скажа: няма такой партыі.

А я скажу: ёсць такая партыя! Яна не палітычная.

Нам не патрэбна афіцыйная рэгістрацыя.

Нам дастаткова быць разам.

Журналісты, усе супрацоўнікі рэдакцыі газеты "Народная Воля" і яе шматлікія чытачы – ці ж гэта не партыя?

Партыя, і яшчэ якая! Як сведчаць апытанні, кожны экзэмпляр газеты ў сярэднім праходзіць праз рукі не менш як чатырох чалавек. Значыць, у партыі "Народнай Волі" налічваецца больш за 100.000 сяброў. Верных, адданых сяброў! Любую каштоўную ідэю, любую значную прапанову, якія нараджаюцца на старонках газеты, яны здольны данесці да мільённых мас.

Мяне як галоўнага рэдактара вельмі і вельмі радуе тое, што з прыходам 2016 года нас не паменшала. Вялікі дзякуй усім-усім прыхільнікам "Народнай Волі"!!!

Якая наша праграма, сябры, на бліжэйшую перспектыву?

Мацаваць Беларусь!

Мацаваць яе незалежнасць!

Садзейнічаць дэмакратычным працэсам, укараненню рынкавых адносін, павышэнню дабрабыту людзей, адраджэнню нацыянальна-гістарычнай спадчыны.

Вы бачыце, што робіцца ў свеце! Палыхаюць войны, рэкамі льецца кроў...

Мы, усе сябры "Народнай Волі", – за мір! Каб у нашым, беларускім, доме было спакойна, павінен захоўвацца належны парадак. Для гэтага ў першую чаргу неабходна паважаць законы. Яны пішуцца для ўсіх – як для шараговых грамадзян, так і для ўлад. На жаль, апошнія не могуць служыць станоўчым прыкладам. Замест дэмакратычнага стаўлення да такога неабвержнага прынцыпу, як свабода слова, у краіне дзейнічаюць пэўныя абмежаванні. Чаму, скажам, газета "Барысаўскія навіны" вось ужо шмат гадоў не мае доступу ў шапікі "Белсаюздруку"? Чаму такой магчымасці – свабодна прадавацца ў кіёсках – пазбаўлена незалежная газета "Intexpress" у Баранавічах? Хто выкрасліў з падпісных каталогаў такое вядомае рускамоўнае выданне, як "Свободные новости"? Пакутуюць ад рэпрэсій улад многія іншыя незалежныя выданні. І гэта ў той час, калі Канстытуцыя, Закон аб друку гарантуюць аднолькава роўныя правы для ўсіх СМІ – як для дзяржаўных, так і недзяржаўных. Але, як бачым, высокім чыноўнікам пляваць на ўсё з вышыні пушынага палёту, галоўнае – выслужыцца перад "Чырвоным домам". А таму тая ж "Белпошта" ледзь не ў прымусовым парадку арганізоўвае падпіску на «Советскую Белоруссию» (звярніце ўвагу: рэспублікі з такой назвай даўным-даўно няма, а назва газеты захавалася. – **Аўт.**), а «Свободным новостям» катэгарычна адмаўляе нават ва ўнясенні ў каталогі.

Ды што казаць, у многіх лукашэнкаўскіх чынуш сваё разуменне свабоды слова. Прымусіць іх кіравацца не асабістымі, не шкурнымі інтарэсамі, а зыходзячы з цывілізаваных пазіцый, улічваючы агульначалавечыя каштоўнасці, – ультыматум ад усёй беларускай дэмакратычнай супольнасці. І "Народная Воля" першай працягвае руку дапамогі калегам з незалежных газет, якія ўсё яшчэ застаюцца ў рэпрэсіўных цісках.

А ці ж можам мы, прыхільнікі свабоднага слова, распачынаючы 2016 год, змірыцца з тым, што вялізарная пляміна чыноўнікаў-дармаедаў сядзіць на карку збяднелых працаўнікоў? Як сцвярджае народная мудрасць, адзін з сошкай, а сямёра – з лыжкай. Не злічыць, колькі гадоў наверсе балбочуць пра скарачэнне штатаў дзяржаўных структур, а яны ад гэтага толькі распаўзаюцца, мяняючы, праўда, шыльды і статуты.

А што ўяўляюць сабой сённяшнія кадры? Я знаю асобу, якая некалі (пасля размеркавання) не змагла як належыць зацвердзіцца нават у фатографах раённага маштабу. А сёння пад ёю прагінаецца міністэрскае крэсла. Нягледзячы на пенсійны ўзрост, А.Лукашэнка пакінуў яе ў складзе ўрада. Ну ці ж не смехатура?!

Не, такія гора-кадры не могуць быць аўтарытэтам для "Народнай Волі". Толькі прафесіяналам высокай кваліфікацыі, людзям з годнай, прынцыповай пазіцыяй пад сілу выцягнуць краіну з багны, у якой яна апынулася. Абрыдлі хваласпевы наменклатурных дэмагогаў наконт таго, што мы, беларусы, "наперадзе планеты ўсёй", што трэба дзякаваць цару-бацюшку за высокі дабрабыт і мірнае неба над галавой. Як быццам правадыры народа аруць і сеюць, стаяць на рыштаваннях будоўляў і ля чыгунаплавільных печаў, займаюцца навуковымі распрацоўкамі і ахоўваў здароўя... Магчыма, і трэба было б вытурыць іх з высокіх кабінетаў, каб яны апынуліся побач з гаротнымі людзьмі, на ўласнай шкуры адчулі іх беды. Дзе абяцаныя заробкі ў 1000 долараў? Вунь за снежань, бадай, не будзе і 380! Большасць пенсіянераў наогул можна лічыць жабракамі, для якіх увахад у крамы з завоблачнымі коштамі на прадукты харчавання фактычна стаў забаронены.

Так, мы сапраўды радуемся мірнаму небу над галавой. Мы ні з кім не ваюем, і з намі ніхто не ваюе. Так і павінна быць! Беларусы – талерантны народ, ён умее спакойна ўжывацца з усімі. І, вядома ж, мае стопрацэнтнае права на больш годнае, больш прыстойнае жыццё. Менавіта за гэта гарой стаіць "Народная Воля", якая з'яўляецца не толькі дэмакратычнай незалежнай газетай, але і, так бы мовіць, незарэгістраванай грамадзянскай партыяй.

Дзякуй Вам, сябры, за вернасць Беларусі, за вернасць нашым агульным ідэалам. Разам мы дасягнём тых высокіх мэт, да якіх імкнёмся.

З надыходзячым 2016 годам і святымі Калядамі Вас, шаноўныя!

Будзьце здаровыя, плёну ў працы!

Міру і спакою, больш радасці ў далейшым жыцці!



**Іосіф СЯРЭДЗІЧ,**
**заснавальнік, выдавец і галоўны рэдактар газеты "Народная Воля".**

КАЛІ ВЯРСТАЎСЯ НУМАР



Пагром пасольства Саудаўскай Аравіі ў Тэгеране.

Фота Reuters

# Гарачы Персідскі заліў...

Увечары ў нядзелю Саудаўская Аравія аб'явіла пра разрыў дыпламатычных адносін з Іранам. Эр-Рыяд даў іранскаму паслу 48 гадзін на выезд з краіны.

Напярэдадні ў сталіцы Ірана дэманстранты закідалі камянямі і кактэйлямі Молатава пасольства Саудаўскай Аравіі. Гэта была рэакцыя шыітаў-іранцаў на пакаранне ў Аравіі смерцю шыіцкага імама, абвінавачанага ў тэрарызме.

Пакаранне імама Аль-Німра распачало новы віток супрацьстаяння найбагацейшай суніцкай і найбольшай шыіцкай дзяржаў.

Іранскія ўлады паабяцалі, што Саудаўскую Аравію чакае «Божая кара». Тэгеран і Эр-Рыяд ужо і раней вялі змаганне за Сірыю і Емен. Не выключана, што Эр-Рыяд будзе спрабаваць аслабіць Іран, збіваючы цэны на нафту, бо сабекошт здабычы ў Іране вышэйшы, чым у Саудаўскай Аравіі. Адным словам, год пачынаецца горача...

# ...Яшчэ гарачэй

*«Каралеўства Бахрэйн прыняло рашэнне разарваць дыпламатычныя адносіны з Ісламскай Рэспублікай Іран і патрабуе ад усіх супрацоўнікаў дыпмісіі пакінуць каралеўства цягам 48 гадзін. Каралеўства таксама закрывае сваю дыпмісію ў Іране і адклікае ўсіх яе супрацоўнікаў»,* – паведамляе нацыянальнае агенцтва BNA.

Як патлумачылі ўлады, рашэнне звязана з умяшальніцтвам Ірана ў справы Бахрэйна і арабскіх манархій Персідскага заліва, «подлымі нападамі» на пасольства і консульства Саудаўскай Аравіі ў Іране і заклікана абараніць бяспеку рэгіёна.

# Гэта пачатак вайны з Іранам?

Улады Судана на фоне нападу на пасольства Саудаўскай Аравіі ў Тэгеране абвясцілі пра выдварэнне з краіны іранскага пасла, паведамляе тэлеканал Al Arabiya, спасылаючыся на заяву адміністрацыі прэзідэнта краіны Амара аль-Башыра.

«Рэспубліка Судан абвясціла пасла Ірана персонай нон-грата і запатрабавала ад усіх служачых дыпламатычнага прадстаўніцтва пакінуць краіну. Таксама было прынята рашэнне адклікаць з Ірана суданскага пасла», – гаворыцца ў заяве.

"Гэта пачатак вайны з Іранам?" – задаюцца пытаннем многія СМІ.

ФОТАФАКТ

### Шоу павінна працягвацца!





Нягледзячы на крызіс, адсутнасць лішніх грошай, скарачэнне выдаткаў на самыя розныя праграмы, любімае шоу кіраўніка краіны – XII міжнародны Каляднш турнір аматараў хакея – не адменена.

Чаму шоу? Таму што нельга ставіцца сур'ёзна да ўзроўню гульцоў. Напрыклад, у складзе нямецкай лядовай дружыны выступае... 83-гадовы нападаючы Эдуард Бшай. Дарэчы, ён ужо больш як 10 разоў прыязджаў у беларускую сталіцу.

Пагуляць у хакей у Мінск таксама прыехала каманда з Аб'яднаных Арабскіх Эміратаў. Невядома, праўда, ці чулі ўвогуле пра хакей у гэтай краіне.

Усяго ў спаборніцтвах удзельнічаюць шэсць каманд. А за дружыну прэзідэнта Беларусі традыцыйна гуляюць ён сам і ягоныя сыны.

Што ж, нятаннае хобі...

ПАРАЛЕЛІ

# Аляксандр Лукашэнка сaступіў Леаніду Брэжневу, але абставіў Мікіту Хрушчова

*Першыя асобы краіны – частыя госці на старонках дзяржаўнай прэсы. "Народная Воля" вырашыла падлічыць, чые фотаздымкі ў прэсе з'яўляліся часцей: Мікіты Хрушчова, Леаніда Брэжнева альбо Аляксандра Лукашэнкі.*

Каб параўнанне было аб'ектыўным, я выбраў галоўныя афіцыйныя выданні СССР і Беларусі: газеты "Правда" і "Советская Белоруссия". Гарталіся падшыўкі за тры гады: 1963-і, 1981-ы і 2015-ы. З трэцяй датай усё зразумела – яна тычыцца толькі Лукашэнкі. А вось 1963-і і 1981 гады – апошнія поўныя гады, калі Хрушчоў і Брэжнеў знаходзіліся ва ўладзе. У 1964-м Мікіта Сяргеевіч быў адхілены ад пасады ў выніку "палацавага перавароту". А Леанід Ільіч у 1982-м адышоў у іншы свет.

У выніку параўнання на першым месцы па "рэкламаванні" апынуўся **Леанід Брэжнеў.** У 1981 годзе чытачы "Правды" ўбачылі яго твар ажно **85** разоў. Падшыўка галоўнага савецкага выдання цалкам перадае атмасферу "застою". Напрыклад, калі Брэжнеў накіроўваўся ў Прагу, у розных нумарах "Праўды" з'яўлялася як мінімум чатыры фотаздымкі. Ад'езд дэлегацыі КПСС з Масквы, выступленне Брэжнева ў Празе, групавы фотаздымак Леаніда Ільіча разам з паплечнікамі падчас візіту, а таксама фота дэлегацыі пасля вяртання з чэхаславацкай сталіцы. Так асвятлялася кожная з незлічных паездак Леаніда Ільіча за мяжу (у апошнія гады перад смерцю ён бываў толькі ў краінах сацыялістычнага лагера). Не абміналіся ўвагай і візіты ў СССР замежных лідараў. А на дзень нараджэння Брэжнева "Правда" змяшчала ажно тры фота любімага правадыра.





На другім месцы апынуўся **Аляксандр Лукашэнка – 81** фотаздымак у «Советской Белоруссии» за 2015 год. Відаць, наконт іх у "СБ" маюцца свае ўнутраныя правілы. Напрыклад, партрэт Лукашэнкі абавязкова змяшчаецца на першай старонцы (некалькі выключэнняў звязаны з прэзідэнцкімі выбарамі, візітам у ААН або Новым годам). Рэдакцыя асвятляе ўсе асноўныя мерапрыемствы, у якіх бярэ ўдзел А.Лукашэнка. Цікава, што побач з Аляксандрам Рыгоравічам фатаграфуюць або шараговых непублічных грамадзян, прыбліжаных чыноўнікаў, або раўназначных яму замежных лідараў. Выключэнняў некалькі. Так, у адным з нумароў газеты з'явіўся сумесны фотаздымак з нямецкім паслом **Вольфрамам Маасам**, які сыходзіў са сваёй пасады. Некалькі разоў "засвяціўся" побач з прэзідэнтам **Уладзімір Макей.** Трапіў у кадр і **Міхаіл Мясніковіч**, які быў сфатаграфаваны разам з Лукашэнкам і Пуціным. Дарэчы, прэзідэнт Расіі з'яўляўся ў "СБ" не аднойчы. Апроч таго, чытачы маглі ўбачыць кадры: Лукашэнка з "нармандскай чацвёркай", лідарамі Расіі, Кітая, Грузіі, Індыі, Азербайджана, Бразіліі... Бо выданне асвятляе кожны візіт прэзідэнта ў замежную краіну або, наадварот, з'яўленне ў Беларусі нейкага высокапастаўленага госця.

Трэцяе месца па афішыраванні ў **Мікіты Хрушчова – 73** фотаздымкі на старонках "Правды" за 1963 год. Дзеля аб'ектыўнасці дададзім: сваю славу ён можа смела падзяліць з **Фідэлем Кастра.** "Камандантэ", які тады знаходзіўся на піку папулярнасці, прыехаў у СССР з працяглым візітам. На старонках "Правды" асвятлялася кожны яго чых! Сумесных фотаздымкаў Хрушчова і Кастра ажно дзесяць. Апроч традыцыйнага кадра з перамоў можна ўбачыць двух лідараў на маскоўскім стадыёне "Дынама", у машыне падчас экскурсіі па Тбілісі і нават у аэрапорце Мурманска, адкуль "таварыш Фідэль" збіраўся на радзіму. Апроч кантактаў з Кастра Хрушчоў сустракаўся з савецкімі касманаўтамі (у тым ліку асабіста віншаваў з вяселлем **Валянціну Церашкову** і **Андрыяна Нікалаева**), прымаў замежных гасцей і прапагандаваў кукурузу...

Як бачна, адлегласць паміж першай і апошняй выбаркамі – крыху больш за паўстагоддзе. А асабліва розніцы не адчуваецца. «Советская Белоруссия», як некалі "Правда", з помпай афішыруе кожны крок галоўнай асобы краіны.

**Максім ПЛОТНІКАЎ.**

ЧЭМПІЯНАТ ЕЎРОПЫ

# Сустракаем канькабежцаў!

Беларусь упершыню прыме кантынентальныя гульні па канькабежным спорце. Прычым чэмпіянат з'яўляецца гістарычным, паколькі гэта апошнія спаборніцтвы, у якіх пераможца будзе вызначацца па суме класічнага мнагабор'я.

Турнір збярэ лепшых спартсменаў больш як з 15 еўрапейскіх краін, у прыватнасці, у Беларусь прыедуць лепшыя канькабежцы з Галандыі, Італіі, Германіі, Нарвегіі, Расіі, Чэхіі. У якасці ганаровых гасцей запрошаны славутыя канькабежцы: прызёр Алімпійскіх гульняў 1988-га і 1994 гадоў, шматразовы чэмпіён свету Ігар Жалязоўскі, чэмпіён Еўропы 1965 года Эдуард Матусевіч, алімпійская чэмпіёнка-2006 Святлана Журава, алімпійскі чэмпіён-1984 Сяргей Фокічаў, алімпійскі чэмпіён-1988 Мікалай Гулеў, прызёр Алімпійскіх гульняў 1972-га і 1976 гадоў, заслужаны трэнер Валерый Муратаў.





Кантынентальнае першынство наведае таксама і адзіная шасціразовая алімпійская чэмпіёнка ў гісторыі канькабежнага спорту Лідзія Скобліках.

Спаборніцтвы пройдуць на канькабежным стадыёне шматпрофільнага культурна-спартыўнага комплексу «Мінск-Арэна».

*«У кожны спаборніцкі дзень у будынку веладрома з 11.00 будзе арганізавана работа фанзоны. Усіх, хто прыйдзе сачыць за барацьбой на лядовых дарожках, чакае анлайн-трансляцыя і вялікае сямейнае калядное шоу»,* – абяцаюць у Саюзе канькабежцаў.

Урачыстае адкрыццё чэмпіянату Еўропы па канькабежным спорце адбудзецца **9 студзеня ў 14.30.**

Расклад спаборніцтваў:
**9 студзеня** –15.00–20.00,
**10 студзеня** – 15.00–19.00.

ПА ЧУТКАХ І...

# Проста зіма...

Здавалася б, якая можа быць нечаканасць – маразы ў студзені. Аднак мінусавыя тэмпературы сталі для многіх не толькі нечаканасцю, але і сур'ёзна напалохалі. Прычым настолькі, што імкліва пачалі распаўзацца чуткі, нібы ў бліжэйшыя дні нас чакае нешта надзвычайнае. Ці так гэта?

Галоўны сіноптык Рэспубліканскага цэнтра па гідраметэаралогіі, кантролі радыеактыўнага забруджвання і маніторынгу навакольнага асяроддзя Мінпрыроды **Святлана Рыбакова** супакойвае. *«Прайшла інфармацыя, што ў ноч з 7 на 8 студзеня ў Беларусь прыйдзе паўднёвы цыклон тыпу «Хаўера». Хачу супакоіць беларусаў. «Хаўер» – гэта такая экстрэмальная з'ява, якая назіраецца раз у 50 гадоў. А цыклон, які мы чакаем, пойдзе на поўдзень ад Беларусі. Ён практычна не закране тэрыторыю нашай краіны. Магчыма, пройдзе невялікі снег у паўднёва-ўсходніх раёнах, але ніякага «Хаўера» не будзе».*

Паводле слоў спецыяліста, у бліжэйшыя дні, у тым ліку на Раство, чакаецца цалкам спакойнае марознае надвор'е.

